NIWA" TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60 gr.



# Ніва



№ 10 (54) БЕЛАСТОК, 8 САКАВІКА 1957 г. ГОД II

## Хто мы такія і чаго мы хочам?

Дзіўнае пытанне? І так і не. Аднак яно існуе і ў розных кругах па-рознаму каментуецца. Маем факты і адкрытых нападак. Нічога дзіўнага, гэта толькі яшчэ адно пацвярджэнне закона дыялектыкі, што ўсё новае родзіцца ў барацьбе. Новае? Несумненна. Наша дзейнасць — гэта адзін з адрэзкаў таго вялікага працэсу адновы, які ахапіў нашу краіну яшчэ надоўга да VIII Пленума нашай партыі і быў прызнаны Пленумам як слушны кірунак. Каб не было адновы грамадска - палітычнага жыцця ў Польшчы, немагчымай была-б наша дзейнасць.

Слушнае сцвярджэнне, што Польшча пасля апошняй вайны з'яўляецца дзяржавай адзінанацыянальнай, у практычнай дзейнасці дагматыкаў змяніла свой сэнс і прыводзіла іх да ігнарацыі нацыянальных меншасцей, а некаторыя дык зусім адымалі права на нацыянальнае жыццё гэтых меншасцей. Як-жа простым было для такога дагматыка пытанне нацыянальных меншасцей у Польшчы. Яго думка працавала ..а, менш-больш, наступнай схэме. Калі ты беларус — то чаго-ж ты ў Польшчы? Значыць табе не падабаецца Совецкая Беларусь? Значыць ты праціўнік брацкага народу? Значыць ты і наш праціўнік? Ты вельмі падазроная асоба. Для дагматыка няважна сутнасць чалавека, яго схільнасці, імкненні, ахвярная праца на карысць супольнай радзімы. Для дагматыка важна догма.

Гэта прывяло да таго, што закрываліся беларускія школы, а многія беларусы, калі пакідалі родную вёску — выракаліся свайго паходжання.

І калі ў Польшчы падуў асвяжаючы вецер, — крануў ён сваім подыхам і справы нацыянальных меншасцей. Толькі цяпер права на нацыянальнае развіццё нацыянальных меншасцей, гарантаванае і раней канстытуцыяй, нашло сваё прымяненне.

Ясна, што не ўсім у Польшчы падабаецца польская канстытуцыя, як і не ўсім падабаецца народная ўлада. Ёсць яшчэ такія, якія адносна беларусаў хацелі-б праводзіць палітыку крэсовых зуброў. Ім не па душы прызнанне беларусам правоў на нацыянальнае развіццё. Ёсць таксама вызнаўцы яшчэ старэйшай, неменш гнуснай, палітыкі «едзінай і недзялімай». Адн[illegible] і другім не падабаецца наша дзейнасць. Не па душы мы й радзімым нацыяналістам.

І, што самае гумарыстычнае, кожны з іх вялікі прыхільнік «шыльдаў», але шыльды для нас заказваюць у розных майстроў. Хадзілі мы нейкі час пад адным шыльдам — «сталінцы» (якая згоднасць у заказчыкаў), але больш кемлівыя спалапаліся, што мы ўсё-ж такі, як ні кажы, дзіцё дэмакратызацыі і прыдбалі нам яшчэ адзін шыльд «нацыяналісты» (як бачым, пагляды размяжоўваюцца).

Не менш гумарыстычны шыльд павесіла нам адна з высокапастаўленых асоб за ўсходняй мяжой, дзе на адным многалюдным сабранні, аб'явіла яна, што мы «буржуазныя нацыяналісты» (!). Сапраўды, якая-ж у людзей схільнасць да тэрміналогіі (ці гэта часам не схільнасць а дагматызму?)

Больш цвярозымі, сярод тых, якім дзейнасць «Нівы» не падабаецца, аказаліся адкрытыя ворагі народнай улады, сапраўдныя беларускія нацыяналісты з Мюнхена. Яны кажуць: — вы комуністы. І кропка (хоць адны ацанілі па заслугах).

Нягледзячы на рознай масці нападкі ў наш адрас, «Ніва» здабывае ўсё больш новых прыхільнікаў, так у Польшчы як і за яе межамі. Гэта нас найбольш цешыць. Гэта доказ, што мы ідзем правільнай дарогай, а ідзем дарогай VIII Пленума.

Чаго мы хочам? Хочам супольна з палякамі будаваць у нашай супольнай радзіме соцыялізм. Хочам, каб у гэтай будове беларус чуўся роўнапраўным гаспадаром, каб не цураўся свайго паходжання, сваёй нацыянальнай культуры, сваёй мовы і традыцый, каб меў на гэта поўныя ўмовы развіцця, каб любіў польскі народ і яго культуру, каб быў поўнавартасным грамадзянінам Народнай Польшчы.

Мы гэтага даб'емся, бо нас падтрымоўвае партыя і ўрад, нас падтрымоўвае прагрэсіўная грамадскасць Польшчы, бо нашы імкненні — гэта неадлучнае звяно ў агульным працэсе адновы.




ЕЎДОКІЯ ЛОСЬ

## РОЗДУМ

Трэба думаць
аб полі, аб красцы адной,
І аб шраме, пакінутым жорсткай вайной,
І аб небе блакітным, высокім,
І аб другу, цудоўным, далёкім...

Трэба думаць
аб песні, якую пяеш,
Аб той кніжцы, якую з сабою нясеш,
І аб клейкім лісточку кляновым,
І аб радасным горадзе новым, —
Трэба думаць аб шчасці, і як яго ўзяць,
Як яго зберагчы, як другім яго даць,
Трэба думаць аб сэрцы гаючым,
Трэба думаць аб сэрцы балючым.
Трэба думаць, якою дарогай ідзеш
І каго за сабой той дарогай вядзеш,
Трэба думаць, каб выраслі дзеці. —
Аб спакоі, аб міры на свеце...

Трэба думаць для справы, аб справе.
І ніколі, ніколі — аб славе!

ШТОТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

Мгр. Аляксандр Баршчэўскі

# Георгі Францішак Скарына — вялікі сын беларускага народа

Жыццё і дзейнасць Г. Скарыны з'яўляецца адной з самых светлых старонак у гісторыі нашага народа.

Скарына нарадзіўся прыблізна ў канцы васьмідзесятых гадоў XV стагоддзя ў Полацку, які быў вялікім гандлёвым і культурным цэнтрам тагочаснай Беларусі. Яго бацька быў багатым купцом. Заможнасць сям'і дала маладому Георгію магчымасць атрымаць пачаткі школьных ведаў пры помачы хатніх настаўнікаў. Аднак гэтыя веды не маглі задаволіць дапытлівага і здольнага хлопца. Трэба ведаць, што ў тыя часы заможныя беларусы, высылалі сваіх дзяцей у вышэйшыя навучальныя ўстановы Кракава, чэшскай Прагі і другіх культурных цэнтраў Еўропы. Гэтай дарогай выпашыў ісці і Скарына. У 1504 годзе паступіў ён у Кракаўскі Універсітэт. Гэты факт быў пацверджаны ў актах, дзе сказана «Franciseus Luce de Ploczko solwit 2 gr» — што абазначае: «Францішак Лукашэвіч з Полацка заплаціў 2 грошы». Гэтыя два грошы павінен быў плаціць кожны паступаючы ва Універсітэт студэнт.



Біблія выданая Скарыной.

У Кракаве, на працягу двух гадоў, Скарына вывучыў філалогію і ў 1506 годзе атрымаў ступень бакалара філасофіі. Веды, якія здабыў ён у Кракаўскім Універсітэце бачна не задаволілі яго дапытлівай натуры. Дзеля гэтага ў 1506 годзе Скарына накіраваўся на захад, дзе на працягу шасці год вывучаў медыцынскія навукі і знаёміўся з друкарствам. У гэтым часе ў Заходняй Еўропе пашыраецца разумовы напрамак — гуманізм. Гуманізм прыклікаў вучоных, артыстаў, пісьменнікаў пакінуць павярхоўную рэлігійную схаластыку і заняцца ўсім тым, што звязана з жыццём і дзейнасцю чалавека. Можна думаць, што Скарына быў прыхільнікам гэтага напрамку. І хоць на працягу шасці год выкарыстаў свае матэрыяльныя сродкі і знайшоўся ў цяжкіх умовах — то аднак не спыніўся ў навуцы.

У 1512 годзе Скарына апынуўся ў Італьянскім горадзе, Падуя, дзе звярнуўся ў Медыцынскі Універсітэт з просьбай, аб бясплатным дапушчэнні яго к экзамену на доктарскую ступень у галіне медыцыны. Прафесар Мусаці прыхіліўся да яго просьбы. Скарына вытрымаў экзамен і прафесар Барызоні ўручыў яму атэстат доктара медыцынскіх навук.

Няма сумнення, што Скарына ў гэтым часе грунтоўна ведаў філасофію, медыцыну, геалогію, валодаў многімі замежнымі мовамі, ведаў плынь сучасных ідэалогій, быў азнаёмлены з друкарскім рамяством. Усё гэта ў Заходняй Еўропе адкрывала перад ім шырокія перспектывы навуковай кар'еры і добрых жыццёвых умоў. Аднак адданасць для свайго народа і гатоўнасць служыць яму ведамі, кіруе Скарыну на другую, цяжкую але высокародную дарогу. Без грошай, пехатой вяртаецца ён на Беларусь. Яшчэ будучы ў Кракаўскім Універсітэце Скарына спатыкаўся з прафесарам Глагольчыкам, які заахвочваў яго заняцца друкарствам. Думка аб друкарні цяпер не пакідала Скарыну. З гэтай мэтай ён адведаў Полацк і Вільню, дзе знайшоў людзей спачуваючых яго намерам. Багатыя віленскія гараджане Б. Ольхаў і Я. Бабіч далі грошы, за якія ў 1517 годзе ў чэшскай Празе залажыў Скарына друкарню. Чаму друкарня была заложана ў Празе, а не ў Полацку, ці Вільні дакладна яшчэ не ведаем.

Часткова гэта тлумачыцца тым, што Прага была вялікім культурным цэнтрам, у якім панавала рэлігійная паблажлівасць і свабода. У тым-жа часе ў Беларусі пашыраюцца польскія ўплывы варожа настроеныя да беларускага культурнага руху. Як прыклад непаблажлівасці можа паслужыць лёс кракаўскага друкара — немца Швайпольта Феоля, які друкаваў рэлігійныя кніжкі на старaславянскай мове, прызначаныя для беларусаў, украінцаў і рускіх. Дзейнасць Феоля была аб'ектам пастаянных нападак з боку каталіцкага духавенства і канчаткова абарвалася пасля яго арышту.

Такім чынам друкарня Скарыны была адзінай ва ўсходняй Еўропе, і тым самым мела грамаднае значэнне для жыцця суседніх славян.

На працягу трох год свайго пражывання ў Празе Скарына пераввёў і выдаў 22 кніжкі.

У 1520 годзе з прычын бліжэй невядомых пераехаў у Вільню, дзе ў першай беларускай друкарні (1525) выдае «Апостала» і «Малую падарожную кніжыцу».

Каб уявіць сабе грамаднае значэнне гэтага факту — варта коратка паслядзіць за гісторыяй распаўсюджвання друкаванага слова ў Заходняй Еўропе.

Як вядома вынаходцам друку быў немец Ян Гутэнберг. Нямеччына ўжо ў 1456 г. мела друкаванае слова. З гэтага часу друкарства распачало свой пераможны паход па краінах Еўропы.

У 1465 г. прыходзіць яно ў Рым, у 1470 г. паяўляецца ў Францыі, 1478 у Чэхіі і Швейцарыі, 1491 у Кракаве, 1499 у Мадрыце, 1564 у Маскве і 1574 у Львове.

Дзякуючы Скарыне — беларускае друкарства (Вільня 1525 г.), апярэдзіла на многа гадоў цэлы рад Еўрапейскіх краін. Біблія, якую ён пераввёў і выдаў, — была трэцяй у Еўропе (першую выдалі немцы, другую чэхі), аб гэтым факце Скарына пісаў: «Біблія руская (рускімі ў гэты час называлася беларусаў) выложена доктарам Францішкам Скарынаю із слаўнага горада Полацка. Богу по чті і людем пасполітым доброму поўчэнію».

Усе кнігі, якія выдаў Скарына маюць рэлігійны змест. Трэба памятаць, што быў гэта пачатак XVI стагоддзя і Скарына быў абмежаваны строгімі абычаямі рэлігійнай традыцыі. У такіх умовах кожны неразважны крок мог быць палічаны «ерэсіяй» і надоўга абарваць выдавецкую дзейнасць. Варта паставіць пытанне, у якой мэце вёў сваю выдавецкую дзейнасць Скарына? Адказ на гэта часткова знаходзіцца ў яго выказваннях.

У «Дарожнай кніжыцы» сказана «абы брацьця мая Русь людзі паспалітыя, чтучы, маглі лепей разумеці: дзецям малым — пачатак усякае добрае навукі, граматы еже добра чэсці і мовіці вучыць: каб беларусы — падарожнікі мелі на чым маліцца на чужой старане, ведалі-б светкаваць якія дні».

Для нас у дзейнасці Скарыны самае важнае тое, што яго кніжкі пашыралі круг беларускіх чытачоў, узмацнялі адукаванасць і садзейнічалі росту нацыянальнага пачуцця беларусаў. Можна смела сказаць, што ўся яго дзейнасць была падыктавана вялікай любоўю да сваей радзімы. Ён быў упэўнены, што кніжкі будуць замацоўваць адданасць беларусаў да сваей бацькаўшчыны. У прадмове сваёй кнігі «Юдыф» Скарына пісаў: «Понеже от прырожэньня зверы, ходяшчіе ў пустыні, знають ямы свае; птіцы летаюшчіе по воздуху, ведаюць гнезда свае; рыбы плываючіе по мору і ў рэках, чуюць віры свае; пчолы і тым падобныя бароняць вульлеў сваіх, такжа і людзі, ікдзе зрадзіліся і ускормлены суць по Бозе к таму месту вялікую ласку маюць».

Усе кніжкі, якія выдаў Скарына былі ім пераведзены на стараславянскую мову. Аднак у іх змесце даволі часта спатыкаюцца беларускія словы, якія мелі дапамагчы ў зразуменні цяжкага тэксту. Да такіх чыста беларускіх слоў адносяцца: пуга, узгорак, ратай, цяміць, бараніць, дупло, скрыня, віхор, шапка і шмат іншых.

Варта затрымацца над уплывам Скарыны на пачаткі друкарства ў Маскве і Львове, а таксама на далейшае развіццё выдавецтва на Беларусі.

Думка аб стварэнні друкарства ў Маскве нарадзілася ў 1551 годзе, аднак ажыццявіць яе ўдалося толькі ў 1563 годзе. Арганізатары маскоўскай друкарні — Іван Фёдараў і беларус з Магілёва — Пятро Мсціславец былі доўгі час у Вільні і, як некаторыя мяркуюць, нават працавалі ў друкарні Скарыны. Каб нават гэта меркаванне не пацвярдзілася — то амаль пэўным з'яўляецца тое, што яны былі дакладна азнаёмлены з выдавецкай дзейнасцю Скарыны і яго друкарняй.



Георгі Скарына. З гравюры 1517 г.

Скупасць звестак не дазваляе на беспамылковае меркаванне аб апошніх гадах жыцця Скарыны.

Ведаем толькі тое, што яго матэрыяльныя ўмовы вельмі пагоршыліся. Быў ён вымушаны судзіцца з братам за падзел бацькаўскай маёмасці, якая ў канцы была канфіскавана. Усё гэта мела адмоўны ўплыў на яго грамадска-асветную дзейнасць, якая ў канцы 20 гадоў XVI ст. абарвалася цалкам. Сучаснаму чалавеку, які мае ў распараджэнні да свайго карыстання сотні і тысячы газет і кніжак, можа цяжка ўявіць, якую грамадную ролю адыйгралі 24 кніжкі пераведзеныя і надрукаваныя Скарыной.

Трэба памятаць, што быў гэта пачатак XVI стагоддзя і друкарня Скарыны была першай у ўсходніх славян. Такім чынам яго заслугі адносяцца да трох брацкіх народаў: беларусаў, украінцаў і рускіх. Скарына адыйграў грамадскую ролю ў развіцці беларускай культуры, беларускай мовы, беларускага патрыятызму.

Дзякуючы яму беларуская думка патрапіла абараніць сваю незалежнасць перад ярымі атакамі езуітаў. Магутны напор паланізацыі і русыфікацыі не змог загасіць агню, які запаліў Скарына. Патрыятычныя ідэі Скарыны прайшлі пераможным паходам праз рад стагоддзяў.

Нашая сучасная моладзь па прыкладзе Скарыны павінна вучыцца гарачай адданасці сваей радзіме, сваей культуры і свайму народу.

Друк у БССР піша

## Развіваць народную творчасць

«Калгасная праўда» з 15 лютага 1957 г. у рэдакцыйным артыкуле п. з. «Развіваць народную творчасць» піша:

— Багаты талентамі наш народ. Невычарпальная крыніца народнай творчасці. У кожным калгасе, соўгасе, на кожным заводзе і фабрыцы ёсць многа аматараў спеваў, музыкі, танца, тэатральнага мастацтва. А колькі ёсць у нас народных умельцаў — мастакоў разьбы і інкрустацыі па дрэву, вышыўкі і ткацтва, вязання, пляцення з саломы!

Многія самадзейныя мастацкія калектывы адзначаюцца сваім высокім выканаўчым майстэрствам. Шырокую вядомасць атрымаў, напрыклад, Азершчынскі хор Рэчыцкага раёна. Яго кіраўніку, калгасніцы Т. Лапацінай прысвоена ганаровае званне заслужанага дзеяча мастацтваў БССР.

У свой час, некалькі год назад, з удзельнікаў самадзейнасці быў створаны такі выдатны творчы калектыў як Беларускі дзяржаўны народны хор.

Многія ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці выдатна праяўляюць сябе не толькі як выканаўцы, але і як таленавітыя стваральнікі новых песень, частушак, музычных кампазіцый. Так, некаторыя песні, створаныя ў Запольскім хоры Карэлінкага раёна, у хоры калгаса «Чырвоны Кастрычнік» Узденскага раёна, распяваюцца па ўсёй Беларусі.

...Невычарпальныя багацці беларускай народнай творчасці, у прыватнасці песеннай, выкарыстоўваюцца недастаткова.

Мала ўвагі ўдзяляецца выяўленчаму, дэкаратыўнаму і прыкладному мастацтву. Абласныя дамы народнай творчасці і раённыя аддзелы культуры слаба клапоцяцца аб выяўленні новых майстроў гэтых жанраў, не аказваюць кваліфікаванай дапамогі народным умельцам. Не выпадкова-ж на аглядах і выстаўках народнай творчасці так мала бывае прадстаўлена разьба і інкрустацыя па дрэву, скульптура і нават ткацтва. А такі від народнага мастацтва, як беларуская мастацкая кераміка, амаль забыты. Здаўна наш народ упрыгожваў вышыўкай мужчынскую і жаночую вопратку, рушнікі, абрусы. Гэтую народную традыцыю, майстэрства трэба прывіваць і м[ол]адзі.

Партыйныя і савецкія арганізацыі павінны больш глыбока займацца пытаннямі развіцця самадзейнай творчасці, усямерна садзейнічаць росквіту народных талентаў. Праўленні калгасаў і сельскія Советы абавязаны штодзённа клапаціцца аб стварэнні спрыяльных умоў для работы гурткоў мастацкай самадзейнасці — акружаць увагай народных умельцаў. Неабходна дабіцца таго, каб у кожным калгасе і соўгасе быў свой добры самадзейны мастацкі калектыў. Да арганізацыі гэтай справы, трэба шырэй прыцягваць камсамольцаў, сельскую інтэлігенцыю.

# КАБ НЕ БЫЛІ КРЫВЫМІ...

*«...Мушу з вамі пагутарыць трохі аб нашай бацькавай спрадвечнай мове, якую мы самі, ды і не адны мы, а ўсе людзі цёмныя «мужыцкай» завуць, а завецца яна «беларускай».*

Гэтыя словы даўно напісаў наш паэт Францішак Багушэвіч.

Ці словы Багушэвіча цяпер сталі неактуальныя?

І цяпер яшчэ ва ўяўленні многіх беларуская мова гэта мова «мужыцкая», «вясковая», «простая».

Адкуль-жа ўзяліся гэтыя незразумелыя назвы: «мужыцкая, вясковая, простая». Хіба не цяжка будзе кожнаму зразумець гэта, калі прыпомніць гістарычныя факты, калі над беларускім народам здзекваліся яго ворагі: то польскія магнаты, то царскія сатрапы, то санацыя.

І адны, і другія, і трэція мелі заўсёды палобныя імкненні: зрабіць беларускі народ сваім слугой, забіць у ім думку, што ён мае штосьці там сваё беларускае, што мае сваю нацыянальную мову.

Іменна на мову кіраваліся галоўным чынам асіміляцыйныя намаганні ворага, бо вядома, што мова адыгрывае асноўную ролю ў жыцці і развіцці народа, якому належыць. Намаганні гэтыя ішлі ў напрамку абуджэння сярод самых беларусаў пагарды да сваёй мовы, як-бы якойсьці ніжэй пастаўленай, непрыгожай.

Гэткім чынам адны, другія і трэція перш за ўсё хацелі адарваць ад народных мас беларускую інтэлігенцыю, якая як адукаваная, перадавая частка народа была найбольш, па іх меркаванню, небяспечнай.

І, з жалем трэба сказаць, што гэтая работа часткова ўдалася.

Многія з беларусаў адцураліся ад роднае мовы.

З асіміляцыяй простага народа было горш. Хоць і гаварылася, што мова беларуская «мужыцкая і простая» — народ усё-ж такі не забываў гэтай простай мовы і праз цэлыя пакаленні ёю толькі гаварыў.

На гэта таксама знайшлася рада. Калі польскія магнаты валодалі беларускімі землямі — аб'явілі, што беларуская мова — гэта дыялект польскай мовы, калі беларускі народ знайшоўся пад царскім прыгнётам, тады ізноў лічылася беларускую мову дыялектам рускай мовы.

Вядома, што мова кожнага народа падзяляецца на літаратурную мову і дыялекты, ці інакш званыя народныя гаворкі.

Дыялект — гэта, простая кажучы, гаворка, якою людзі гавораць, у адной мясцовасці. Моўных дыялектаў кожны народ мае многа.

Возьмем для прыкладу блізкую, знаёмую нам, польскую мову. Інакш размаўляюць палякі ў Беластоцкім ваяводстве, інакш у Ольштынскім, інакш у Кракаўскім і г. д.

Але ці можам сказаць, што нпр. кашубы над морам размаўляюць не польскай мовай, а нямецкай? Не, не можам. Бо кашубы размаўляюць дыялектам польскай мовы, хоць не пярэчым, што ў кашубскім дыялекце ёсць шмат моўных асаблівасцей і слоў з нямецкай мовы. Заўсёды, калі два народы жывуць, або ў мінулым жылі, па-суседству, яны адзін ад другога запазычаюць і словы і звычаі.

Адзін мой таварыш, паляк з Сувальскага павета нядаўна падаваў мне шмат прыкладаў слоў няпольскіх, існуючых у польскай гаворцы Сувальскага павета. Вось напрыклад: шчока (беларускае шчака), берэзняк (бел. беразняк), хішыбет (бел. хрыбет) і шмат іншых.

Як бачыце розніца невялікая, пераважна толькі ў націску.

У беларускіх народных гаворках спатыкаюцца ізноў польскія словы.

Беларуская літаратурная мова ў некаторых выпадках больш, у іншых менш, розніцца ад гаворак у беларускіх вёсках Беласточчыны.

Жывучыя па-суселску з украінцамі і палякамі, — беларусы маглі ў некаторых мясцовасцях пераняць ад іх некаторыя моўныя асаблівасці, украінцы ці палякі ізноў ад беларусаў.

Але ці на аснове ўсяго гэтага можам сказаць, што гэта не беларуская гаворка. Не, не можам гэтак сказаць.

Сярод беларусаў на Беласточчыне ёсць шмат гаворак. Як-жа часта невялікая адлегласць паміж вёскамі, а розніца ў гутарцы ўжо ёсць.

Усё гэта я напісала для таго, каб адказаць на памылковы погляд, якіператрываў з часоў прыгнёту і здзеку над беларускай мовай, быццам-бы наша мова «простая» і ўсё. Так, наша мова простая, але толькі таму, што і мы людзі простыя і «крывымі» быць не хочам.

ВЕРА ЛЕУЧУК

Ліст у рэдакцыю

## Зразумелае сэрцу — сваё роднае

Калі гаварылі ў Белавежы аб існаванні Беларускага калектыву песні і танца на Беласточчыне — то мала хто ў гэта верыў. Тыя, што і верылі, то думалі — «ну што-ж тут дзіўнага, ці мала ёсць калектываў. Нават у нашай Белавежы і то ёсць».

Праўду кажучы я і сам не вельмі верыў, што гэты калектыў пакажа што - небудзь да рэчы.

Я, і ўсе іншыя пайшлі на канцэрт хутчэй з цікавасці і патрыятычных пабудак, ніж з думкай атрымаць задавальненне.

Аказваецца, нельга быць песімістам. Гэты канцэрт быў сапраўды для белавежан, у тым ліку і для мяне, вельмі прыемным сюрпрызам. Гледачы ўбачылі вельмі зладжаны калектыў.

У маім жыцці мне прыходзілася бачыць вельмі многа калектываў. Ну сапраўды, калі я пачуў родную мову на сцэне, на якой мы звыклі чуць толькі польскую мову і, калі палілася беларуская песня, праўду кажучы, ад хвалявання мурашкі прайшлі па спіне.

Такіх хвалюючых хвілін я ні на адным канцэрце не перажываў. Я зразумеў, што найбольш хвалюючае і прыемнае, найбольш зразумелае — гэта ў сябе на сцэне чуць сваё роднае, бацькоўскае, такое цёплае і зразумелае беларускае слова. Адсюль зразумела, што ўжо з першых хвілін быў навязан цёплы кантакт паміж артыстамі і гледачамі.

Немалая тут заслуга і канферанс'е калектыва — Веры Леўчук. Сапраўды, яе цёплае беларускае слова хутка з'еднала гледача, змушаючы яго жыць канцэртам, перажываць яго.

Калі-б спытацца гледача, што яму найбольш падабалася, — то адказаў-бы «трудна сказаць. Падабалася ўсё, ад пачатку да канца.

Вельмі добрая кампазіцыя канцэрта, вельмі ўдачна падабрана праграма, злажаны і добры хор, майстэрская танцавальная група — і агульна ўсё пакідае па сабе вельмі прыемнае ўражанне».

Нічога дзіўнага, што выступленне спадабалася не толькі беларусам. Калі я на другі дзень быў на працы ў фабрыцы ў Гайнаўцы — то вельмі прыемна было паслухаць, як інжынерна - тэхнічны персанал фабрыкі жыва «дыскутаваў» аб Беларускім калектыве, які відаць было, вельмі ім спадабаўся.

Толькі мне і многім другім здаецца, што замест рускай песні «Помню я ешчо молодушкой была»..., больш прыямней было-бы пачуць беларускую песню. Добра было-б, каб у перапынках пачуць добры фельетон на тэмы жыцця Беласточчыны.

На заканчэнне, дазвольце мне ад імя ўсіх грамадзян Белавежы, сказаць ад усяго сэрца шчырае, беларускае слова — «дзякую» — кіраўнікам калектыву: Панько і Гіжэўскай, а таксама і членам усяго калектыву і пажадаць яшчэ лепшых дасягненняў.

Мгр. М. ТАРАСЕВІЧ

Белавежа.

## Ці друкаваць далей гутаркі аб мове?

Рэдакцыі «Нівы» вядомымі з'яўляюцца труднасці, з якімі сустракаюцца нашы настаўнікі. Немалы клопат прычыняе тут недахоп падручнікаў неабходных да вывучэння беларускай мовы.

Кіруючыся тым, рэдакцыя пачала друкаваць «гутаркі аб мове».

І вось, ужо 12 гэткіх гутарак друкавалася, але не ведаем, ці яны прыдатны нашым чытачам, ці карыстаеце Вы з іх, а калі не — то чаму, мо' змяніць форму апрацоўкі? Ці існуе патрэба друкаваць іх у далейшым?

Звяртаемся з просьбай да Вас — дарагія чытачы, напішыце нам аб тым.

Чакаем на Вашы лісты.

гэта значыцца, што «Таварыства» мела-б права адчыняць аддзелы і філіі на Беларускіх землях. Пасля доўгага чакання надыйшоў адказ, зразумела, што адмоўны. Матываваны быў тым, што на такую беларускую арганізацыю не можна дазволіць з прычыны малай колькасці беларусаў у Варшаве.

У гэтай справе арганізацыйная камісія ўпаўнаважвае адв. Адама Бычкоўскага 1) злажыць рэкурс у Міністэрства ўнутраных спраў. У рэкурсе было адзначана, што ў Варшаве беларусаў нямала — больш 5 тысяч асоб. Праходзілі месяцы, а адказу не было, нічога не памагала і беганне арганізатараў ў міністэрства.

Узрыў да грамадскае працы, які ахапіў арганізатараў — не даваў супакою і нечакаючы на адказ, пачынаюць працаваць нелегальна. А між іншым, ладзяць ў залах «Варшаўскага музыкальнага таварыства» у Філармоніі «Беларускі Канцэрт-вечарынку», якая сцягнула шматлікую колькасць насельніцтва ўсіх нацыянальнасцей. Выступілі маладыя беларускія артысты, пераважна студэнты, а Е. Леўковіч (Г. Леўчук) 2),—вядомы беларускі паэт чытаў беларускія вершы і спяваў песні пад уласны акампаніямент гітары. З гэтай «Канцэрт - вечарыны» падаў шырокую справаздачу «Шлях Моладзі» у № 3 з сакавіка 1937 г. Гэта, можна сказаць смела, была першая наогул у Варшаве, у шырэйшым маштабе беларуская імпрэза, якая выклікала вялікі водгук у сталіцы Польшчы. Тадышні, (штопраўда не ўвесь) варшаўскі друк, а м. ін. фашысцкі тыдн. «Вем вшыстко», заняў варожае і шавіністычнае становішча, падаючы да ведама, што на «Беларускім Канцэрт-вечарыне» было больш як 400 асоб, а характар быў больш чым дэмакратычны і напамінаючы адначасова адпаведным уладам, каб на будучыню забаранялі «папісвацца» усялякім «паланафобам», а іх арганізатараў прыцягваць да адказнасці, што часткова і здзейснена.

Праз год з Міністэрства прыйшоў адказ, які нічым не розніўся ад дэцызіі Камісарыята Урада на г Варшаву. А на асабістую інтэрвенцыю дэлегацыі ў Міністэрстве ўнутраных спраў начальнік нацыянальных меншасцей адказаў, што агонь, які прытухае, трэба гасіць, а не распальваць. Гэта было ясна сказана. Але ён не ведаў, што як-раз гэты агонь распальваўся, а не патухаў.

Арганізацыйная камісія і пасля гэтага не апускае рук. Апрацоўвае новы статут ужо як: «Асветнае таварыства беларусаў у Варшаве» і складае яго ў стараства ў снежні 1937 г. Прачакаўшы назначаны правам час (4 тыдні) «Асветнае таварыства беларусаў у Варшаве» пачынае сваю, легальную ўжо, дзейнасць, якая нажаль, абмяжоўвалася толькі на г. Варшаву.

«Асветнае таварыства беларусаў у Варшаве», нягледзячы на надта цяжкія палітычныя і эканамічныя абставіны, зрабіла вельмі многа. Перш за ўсё згуртавала каля сябе больш тысячу асоб, штоправда, не ўсе былі фармальна сябрамі Таварыства з прычын зусім зразумелых. Кожны хіба з нас ведае, аж надта добра, што санацыйныя ўлады ў кожным выпалку рабілі ўсялякія перашкоды беларусам, а тым больш сарганізаваным. А колькі-ж было выпадкаў, што дзяўчына, якая працавала як хатніца, а такіх у Варшаве было вельмі шмат, прыходзіла ў Таварыства са скаргай: «На што-ж вы прыслалі мне паведамленне на рэферат, — кажа — мой хлебадаўца адабраў пісульку і як пабачыў, што па-беларуску, то злаяў, назваў комуністкай і выкінуў мяне... Дзе-ж цяпер я падзенуся?...» З гэтым была сапраўдная бяда.

Не лепш было і ў прадпрыемствах урадавых ці самадзейных. Шавінізм шырыўся і квітнеў не толькі на землях Беларусі, але і тут, у Варшаве — сэрцы Польшчы... Нягледзячы аднак на гэта, работніцы і работнікі, кінутыя голадам у Варшаву, кожную нядзелю прыходзілі на рэфераты.

У траўні 1938 г. Таварыства сарганізавала публічны канцэрт у Варшаўскай Кансерваторыі вядомага беларускага спевака М. Забейды-Суміцкага. Тут трэба падкрэсліць, што беларускі канцэрт зрабіў вялікае ўражанне ў Варшаве. Зал Кансерваторыі быў перапоўнены, а артыст вымушан быў слухачамі паўтараць амаль кожную беларускую песню. Прэса варшаўская ў сваіх рэцэнзіях пісала, што даўно ўжо не было такога добрага канцэрта ў сталіцы, а выходзячыя з канцэрта гаварылі між сабой, што і беларусы маюць свайго Кепуру, і вось, каб часцей беларускія песні тут пялі, надта-ж яны прыгожыя.

У год пазней, у чэрвені 1939 г. Таварыства наладзіла ў «Саюзе польскіх пісьменнікаў», аўтарскі вечар, М. Танка. Шырока і дадатна пісаў аб гэтым польскі друк, падкрэсліваючы, што прысутныя польскія маладыя паэты з зайздрасцю прыслухоўваліся рэцытацыі Танка — беларускага Есеніна.

Таварыства сарганізавала некалькі публічных вечарынак з выступленнямі беларускіх артыстаў. Незалежна ад гэтага Таварыства ладзіла, кожную нядзелю лекцыі, курсы беларускай мовы, а ў апошні час арганізаваўся беларускі хор і тэатр.

Нажаль гітлераўская навала, перарвала гэтую працу, а ўся маёмасць: бібліятэка, акты і інш. — згарэла ў часе дзеянняў першых дзён верасня 1939 г.

Задачай сённяшніх дзён варшаўскіх беларусаў, з'яўляецца: добра сарганізавацца, у межах Народнай Польшчы, да новай культурна-асветнай працы, у новых, лепшых абставінах палітычных і эканамічных, дзеля супольнага сужыцця, будавання і ўмацоўвання соцыялізма і дружбы між кахаючымі мір народамі.

*1) Адв. Адам Бычкоўскі памёр 18 лістапада 1937 г. Быў ён адным з заснавальнікаў Таварыства і адным з найбольш дзейных сяброў нелегальнага гуртка «Беларускай вучнёўскай моладзі ў Гродне» у 1909 г.*

*2) Г. Леўчук быў апошнія гады ў Доме старэчаў на Кракаўскім Прадмесці ў Варшаве. Як ходзяць чуткі — дом разам са старэчамі спалілі гітлераўцы ў першых днях варшаўскага паўстання.*

П. ЛАСТАЎКА

